**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 5 (721) 30 студзеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае






Няма клёву на возеры Кагальным!

*Фота Ул. Скрабатуна*



## МНС інфармуе

**на 28.01.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 103;
Гібель людзей – 17, з іх 1 дзіця;
Урон – 76,0 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 5;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон – 14.0 млн. руб.



## П'янству – бой!

■ **А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

**За 2013 год.**

По вобласці да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 1123 грамадзяніна па арт. 12.43 КоАП Рэспублікі Беларусь (Выраб ці набыццё моцных алкагольных напояў(самагонкі), паўфабрыкатаў для вырабу (брагі), захоўванне апаратаў для іх вырабу) і за парушэнне Дэкрэту №11 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 09.09.2005 года «Пра ўдасканаленне дзяржаўнага рэгулявання вытворчасці, звароту і рэкламы піва, алкагольнай нехарчовай спіртазмяшчальнай прадукцыі і нехарчовага этылавага спірту», канфіскавана 323.488 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў, самагонкі і самагоннай брагі, знішчана 3 мінізаводы, канфіскавана 112 самагонных апаратаў.

Па Глыбоцкім раёне: да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 39 грамадзян, канфіскавана 175.188 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў, самагонкі і самагоннай брагі, знішчана 9 самагонных апаратаў. 7 чалавек загінула ад атручвання этылавым алкаголем (у 2012 годзе –13).

Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на ________ №166

## Талачынскі раён

# Тры гады на абнаўленне

■ Станіслаў Раманчук

**Буйнейшай прыватызацыйнай здзелкай у вобласці летась стала набыццё напрыканцы года Коханаўскім экскаватарным заводам, што ў Талачынскім раёне, сваіх новых гаспадароў.**

Асноўны дзяржпакет акцый гэтага прадпрыемства, створанага толькі ў 1991 годзе, набыла ўпраўляючая кампанія аднаго з самых паспяховых айчынных холдынгаў ААТ "Амкадор". З такой прапановай да мінчан раней выйшла мясцовае кіраўніцтва, і тыя правялі праверку вытворчасці, прааналізавалі перспектывы і пагадзіліся. Дагэтуль у Коханаве выпускалі розную дарожна-будаўнічую тэхніку і адзіныя ў краіне выраблялі аднакаўшовыя экскаватары на гусеніцах. Аднак з цягам часу прадпрыемству з глыбінкі ў адзіночку праблематычна стала развівацца на перспектыву. Сталічны холдынг у стане правесці тут на працягу 3-х наступных гадоў патрэбнае тэхпераўзбраенне. Па разліках у абнаўленне завода неабходна ўкласці каля 50 млрд. рублёў прамых інвестыцый. Пры гэтым мінчане абавязаліся захаваць існуючы профіль вытворчасці і цяперашнюю колькасць завадчан, што вельмі важна для жыхароў рэгіёна. Дарэчы, прадпрыемства адсюль – не першае, каго набыў адзін з флагманаў беларускай эканомікі. Сотні млн. долараў "Амкадор" патрацію, каб даць другое жыццё шэрагу прадпрыемстваў у сталіцы, а таксама ў Дзяржынску, Лагойску. Цяпер мінчане выходзяць і на міжнародную арэну, рыхтуюцца набыць шэраг падобных прадпрыемстваў у Сербіі. З такім партнёрам і экскаватарны завод з глыбінкі не прападзе ў будучым.

## Пастаўскі раён

# Усім мілы "Родны кут"

■ Кастусь Александровіч

**Вось ужо другое дзесяцігоддзе лідзіруючыя пазіцыі ў вобласці і Беларусі займае Пастаўскае райпо, якое пераўтварылася ў шматгаліновую гандлёва-вытворчую арганізацыю.**

І невыпадкова гэты калектыў адкрыў днямі ў райцэнтры самы буйны і сучасны ў Прыдзвінні супермаркет гандлёвай сеткі "Родны кут" агульнай плошчай звыш тысячы кв. метраў. Размясціўся гэты гандлёвы цэнтр, які адразу набыў папулярнасць, па суседстве з Палацам Тызенгаўза, у перспектыве музейным комплексам. У прыгожы прасторны будынак з самымі сучаснымі тэхналогіямі гандлю райпо ўклаў больш 60 % уласных сродкаў, астатнюю частку склалі банкаўскія крэдыты. У гандлёвай зале, аснашчанай навейшай камп'ютарнай праграмай, асартымент тавараў перавысіў 20 тысяч найменняў і можа быць яшчэ павялічаны, бо створаны лагістычны цэнтр з вядомымі пастаўшчыкамі. Пакупнікоў прыцягвае, што тут даступныя цэны, шмат прадукцыі ўласнай вытворчасці, дзейнічае сістэма дысконтных карт, розных акцый "Лепшая цана". У дзень адкрыцця адзін хлебазавод прадставіў 9 сваіх навінак, сярод якіх хлеб "Царскі з сухафруктамі" і булка "Паўлінка". Каб пераканацца ў смакавых якасцях мясной, рыбнай, кулінарнай прадукцыі, была арганізавана дэгустацыя вырабаў гандлёвай маркі "Старонка Тызенгаўза". Самыя актыўныя пакупнікі атрымалі шампанскае і каробкі цукерак у падарунак, а за паўдня абслугоўвання было прададзена тавараў на 150 млн. рублёў. Дарэчы, летась падобны аб'ект упрыгожыў гарпасёлак Варапаева, адкрыліся яшчэ прыдарожнае кафэ "Церамок" у горадзе, некалькі абноўленых крам у сельскай мясцовасці.

## Браслаўскі раён

# Новы імпульс веры

■ Чэслаў Якубовіч

**Адной з самых прадстаўнічых на прайшоўшым у абласным цэнтры пасвячэнні новага біскупа Віцебскай каталіцкай дыяцэзіі стала дэлегацыя святароў і вернікаў з Браслаўскага раёна.**

Многія жыхары з азёрнага краю добра ведаюць асабіста святара-наміnanта, свайго земляка 41-гадовага Алега Буткевіча. У той дзень галоўны хрысціянскі храм горада – кафедральны касцёл Езуса Міласэрнага не змог змясціць усіх жадаючых стаць сведкам гэтай знамянальнай падзеі, на якой акрамя нунцыя з Ватыкана, усіх іерархаў касцёла на Беларусі прысутнічаў і памочнік праваслаўнага архіепіскапа Віцебскага і Аршанскага Дзімітрыя. Прысутныя пазнаёміліся з жыццёвым шляхам да веры новага маладога кіраўніка дыяцэзіі, якая вельмі актыўна развіваецца і перажывае быццам другое адраджэнне. Цяпер каталікі Віцебшчыны маюць 93 свае парафіі ў розных кутках Прыдзвіння і 79 каталіцкіх храмаў. Таксама ў вобласці працуюць ужо 3 манастыры і яшчэ 5 касцёлаў цяпер будуюць альбо рамантуюць. Новы біскуп абраў сабе па традыцыі свой герб, абраз Маці Божай Браслаўскай побач з выявай Езуса і пранікнёнымі словамі малітвы "Няхай будзе воля твая". Дарэчы, кіраўнік дыяцэзіі – вельмі ціплы і таленавіты чалавек, сапраўдны беларус-патрыёт, падобны па адносінах да людзей на Папу Рымскага Францішка, таму пантыфік і зрабіў такое вельмі ўдалае прызначэнне біскупа Алега.

# Аб самым надзёным

## У штогадовым рэйтынгу эканамічных свабод Беларусь заняла толькі 150-е месца ў свеце

■ Аляксандр Цішкевіч

**Гэты рэйтынг узначалілі Сінгапур, Аўстралія, Швейцарыя, Новая Зеландыя і Канада, куды ахвотна імкнуўся летась асноўны паток інвестыцый і дзелавых людзей. Замкнулі гэты рэйтынг паўгалодныя КНДР і Куба, а нашы суседзі размясціліся Літва – на 21-м месцы, Латвія – 42-я, Польшча – 50-я, а Расія заняла 140-е месца.**

З першых дзён студзеня большасці беларусам стала зразумела, што і наступіўшы 2014 год не абяцае краіне нічога добрага, бо адразу ж прадоўжыўся рост цэн. Летась, дарэчы, спажывецкія цэны ў нас выраслі нават на 16,5 % і істотна перавысілі зацверджаны прагноз па інфляцыі 12 %. Эксперты прагназуюць, што падобная тэндэнцыя захаваецца і сёлета, як і не будзе павелічэння попыту на беларускую прадукцыю. Толькі ўсмешку выклікаюць намеры масава прадаваць новы айчыннакітайскі аўтамабіль "Джылі" па ўсім свеце, у тым ліку ў Казахстане і ў "святая святых" – Расіі.

Дасведчаныя спецыялісты прама гавораць, што гэты праект чакае падобны лёс, які напаткаў праграмы адраджэння беларускай вёскі (эканоміка АПК у крызісе і адчуваецца недахоп рабочых рук), а таксама тэхпераўзбраення дрэваапрацоўкі і мадэрнізацыі прамысловасці. Галоўнае ж у тым, што эканоміка Беларусі па-ранейшым мала прыцягальная для актывізацыі тут бізнесу пад татальным кантролем дзяржавы. Таму і не адбываецца жаданага прытоку прамых замежных інвестыцый. Невыпадкова нашу краіну ў штогадовым рэйтынгу эканамічнай свабоды за 2013 год Heritage Foudation сумесна з вядомай газетай бізнес-эліты свету Walt Street Jornal сярод вывучаемых спецыялістамі 178 краін паставілі толькі на 150-е месца.

Гэты рэйтынг узначалілі Сінгапур, Аўстралія, Швейцарыя, Новая Зеландыя і Канада, куды ахвотна імкнуўся летась асноўны паток інвестыцый і дзелавых людзей. Замкнулі гэты рэйтынг паўгалодныя КНДР і Куба, а нашы суседзі размясціліся Літва – на 21-м месцы, Латвія – 42-я, Польшча – 50-я, а Расія заняла 140-е месца. Распрацоўшчыкі гэтага своеасаблівага індыкатара ўлічвалі такія параметры, як павага да права ўласнасці, свабода вытворчасці, гандлю, нормы рэгулявання, рэгістрацыі і ўмовы вядзення бізнесу. А ў нас, як вядома, нават з бліжэйшым і галоўным саюзнікам у мінулым годзе прадоўжыліся ўжо "калійныя войны" і быў арыштаваны ў Мінску гендырэктар "Уралкалія".

Самае галоўнае, што айчынная, пераважна дзяржаўная эканоміка стала прабуксоўваць. Яе асноўная галіна – прамысловасць зноў завяршыла год спадам вытворчасці да 2012 года амаль на 5 %, дарэчы, як і сельская гаспадарка. Цікавы факт: перад сваім працяглым афіцыйным візітам у Кітай кіраўнік урада Беларусі М. Мясніковіч даручыў да вясны правесці скарачэнні штату і няпрофільных актываў. Пасвойму рэагуе на эканамічныя цяжкасці і на няўтойлівую сітуацыю насельніцтва. Гэта ж вам не жартачкі, што людзі ўжо не вераць у стабілізацыю, а, па дадзеных Нацыянальнага банка Беларусі, летась за год купілі валюты на 2,4 млрд. долараў болей, чым прадалі. Для параўнання, у 2012 годзе ўсё было наадварот, бо беларусы тады болей прадалі долараў на 164 млн. і сталі, праўда, актыўна пераводзіць свае рублёвыя ўклады ў валютныя.

Гэты працэс сёлета найбольш актыўна ішоў у снежні, калі фізічныя асобы толькі скупілі "зялёненькіх купюр" на 1,025 мільярда, баючыся чарговай дэвальвацыі. На шчасце, з дапамогай зноў Расіі не дапусцілі абвалу золатавалютных рэзерваў і самога нашага рубля, курс якога і далей будзе плаўна паніжацца. Але на колькі месяцаў хопіць у нас запасаў, ці будзе паступаць у краіну валюта – на гэтыя пытанні, шчыра кажучы, адказаць складана. Тым часам многім неэфектыўным дзяржпрадпрыемствам пагражае крэдытны голад, паколькі ў банкаў абмежаваныя фінансавыя рэсурсы.

Нашы людзі так разумеюць сённяшняе сваё жыццё, як і тое, што зараз трэба спадзявацца найперш толькі на сябе. Сацыёлагі прагназуюць сёлета і рост трывожных прадчуванняў у беларускім грамадстве наконт далейшай будучыні. Канчаткова ж пагоршыць імідж Беларусі і спужаюць апошніх інвестараў могуць адыёзныя намеры дзяржавы ўвесці змены ў парадак прыватызацыі і надзяліць правам аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам галасаваць галасамі акцыянераў. Гэты скандальны законапраект у парламенце быў разгледжаны ў першым чытанні яшчэ летась летам.

На мінулай восеньскай сесіі яго не сталі разглядаць, а перанеслі на вясну сёлета. А які стан беларускай эканомікі, пацвярджае і такі факт: 70 % нашых прадпрыемстваў навогул не выплочваюць дывідэнтаў сваім акцыянерам, альбо налічваюць капейкі. Брацы ж грошай няма адкуль, паколькі ў пачатку снежня на складах скапілася непрададзеных тавараў на амаль 30 трлн. рублёў ( 3 млрд. долараў). Мала хто ў свеце хоча купляць айчынныя машыны, тэкстыль, абутак, электроніку ў вялізных аб'ёмах, якія дырэктыўна загадваюць выпускаць. Пры такіх падыходах да поўнага эканамічнага краху нам ужо блізка.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 30.01.14 | | | | Пятніца 31.01.14 | | | | Субота 01.02.14 | | | | Нядзеля 02.02.14 | | | | Пн.03.02.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -18 | -23 | -14 | -18 | -19 | -21 | -12 | -15 | -14 | -17 | -9 | -11 | -11 | -14 | -7 | -12 | -13 | -17 | -7 |
| Ціск | 763 | 765 | 766 | 766 | 766 | 765 | 764 | 762 | 760 | 757 | 757 | 757 | 757 | 757 | 758 | 758 | 758 | 757 | 758 |
| Вільготнасць | 67 | 68 | 61 | 60 | 60 | 63 | 50 | 52 | 52 | 51 | 45 | 54 | 54 | 58 | 39 | 53 | 57 | 61 | 41 |
| Вецер м/сек | 3 Пд | 3 Пд | 4 Пд-У | 4 Пд-У | 4 Пд-У | 4 Пд-У | 7 Пд | 9 Пд | 9 Пд | 9 Пд | 8 Пд | 9 Пд | 8 Пд-З | 8 Пд-З | 6 Пд | 7 Пд-З | 6 Пд-З | 6 Пд-З | 4 Пд-З |

## Дзень за днём

**Нацыянальны банк РБ прыняў некалькі рашэнняў па ўзмацненні жорсткасці грашова-крэдытнай палітыкі. За апошнія паўгода ўслед за калгасамі пагоршылася фінансавае становішча многіх прамысловых прадпрыемстваў Беларусі, іх даўгі перавысілі 2,2 трыльёна рублёў. З шэрагу прадпрыемстваў краіны людзі пачалі звальняцца пасля зніжэння заробкаў. Летась беларусы чакалі дэвальвацыі і скупілі за год у банкаў 2,4 мільярда долараў. Значна ўскладнілася задача размясціць усіх на чэмпіянаце свету па хакеі-2014, бо ў Мінску з-за недахопу работнікаў будаўнічых спецыяльнасцяў з 10 дарагіх зорных гатэляў 6 не паспеюць здаць.**

# Важнейшыя навіны свету

**Ірак.** На фоне ўзмацнення ў краіне пазіцый радыкальных ісламістаў ЗША павялічыў падтрымку і забяспячэнне ўсім неабходным іракскай арміі, у ёй амаль 1 млн. чалавек.

**ЗША.** На выставе новых тэхналогій у Лас-Вегасе кампанія Razer прадставіла навейшы модульны камп'ютар, які без спецыяліста можа сабраць і мадэрнізаваць любы спажывец.

**Латвія.** У шэрагу кампаній, вытворцаў кансерваў шпротаў Расспажыўнагляд знайшоў нібыта шкодныя рэчывы, падобныя былі ва ўкраінскіх цукерках фірмы "Rochen".

**Расія.** Упершыню з часоў "халоднай вайны" амерыканскаму журналісту, аўтару 3 кніг пра Расію Дэвіду Сатэру не далі ўязную візу, што можа яшчэ пагоршыць адносіны РФ з ЗША.

**Грэцыя.** Падчас старшынства ў ЕС міністр фінансаў Яніс Стурнарас заявіў, што грэкі катэгарычна супраць далейшых суровых мер па скарачэнні бюджэтнага дэфіцыта.

**Сірыя.** У нейтральных водах пачалося знішчэнне кантэйнераў з баявымі атручваючымі рэчывамі, але канца паўнамаштабнай грамадзянскай вайны тут не прадбачыцца.

**Украіна.** Шэраг мясцовых Саветаў на захадзе краіны прынялі заявы аб недаверы Партыі рэгіёнаў і прэзідэнту В. Януковічу, рэйтынг апазіцыі расце паўсюдна і дасягнуў 45 %.

**Швейцарыя.** З-за зніжэння кошту золата на сусветных рынках летась Нацбанк краіны атрымаў за год страты ў памеры 10 млрд. USD, акцыянеры пазбавіліся сваіх даходаў.

**Літва.** За ўзведзеныя літоўскімі будаўнікамі ў Беларусі розныя аб'екты, як заявіў прэзідэнт іх Асацыяцыі Дарус Гедвілас, заказчыкі запазычылі літоўцам 1,2 мільярда еўра.

**Ватыкан.** Падчас чарговай сустрэчы з вернікамі на малітве "Анёл Панскі" Папа Рымскі Францыск назваў імёны яшчэ 13 новых кардыналаў па свету, сярод іх – беларусаў няма.

**Ізраіль.** Пасля 8 гадоў у коме памёр былы прэм'ер-міністр і выдатны ваенны камандзір спецназа краіны Арыэль Шарон, яго баяліся арабы, а бацькі былі родам з Беларусі.

**Латвія.** Упершыню ў гісторыі краіны ўрад узначаліла жанчына Лаймдота Страуюма, яна змяніла падаўшага ў адстаўку В. Дамброўскіса пасля абрушэння цэнтра гандлю ў Рызе.

**Францыя.** Адзін з самых непапулярных прэзідэнтаў Ф. Алланд адмовіўся каментаваць чуткі аб сваім рамане з актрысай, але прызнаў праблему адносін з грамадзянскай жонкай.

**Данія.** Толькі 36 дзяржаў без розных цяжкасцей, як у 12, пацвердзілі свой удзел у 59-м міжнародным конкурсе песні "Еўрабачанне-2014", які пройдзе ў маі ў Капенгагене.

**Аўстрыя.** Ледзь не загінуў 3-разовы алімпійскі чэмпіён па скачках на лыжах з трампліна Томас Маргенштэрн, калі няўдала ўпаў падчас трэніроўкі, ён прапусціць турнір у Сочы.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасля ўваходжання ў расійскі холдынг "РТ-аўта" мясцовы завод колавых цягачоў стаў асноўным пастаўшчыком гэтай тэхнікі для патрэб ракетных комплексаў Расіі.

**Салігорск.** Эксперты на рынку сусветных паставак калію засумняваліся, што ў снежні БКК 150 тысяч угнаенняў магла адгрузіць у Кітай. Калій, верагодна, пакінулі на складах.

**Мінск.** Цэны на бензін у нас, як заявіў міністр эканомікі М. Снапкоў, не будуць вышэй, чым у Расіі, летась у Беларусі яны павышаліся 5 разоў, рост цэн на паліва склаў 26 %.

**Брэст.** Адна з самых паспяховых айчынных малочных кампаній "Савушкаў прадукт" змяніла свой папулярны гандлёвы брэнд і пазбавілася ад слова ў ім "прадукт".

**Астравец.** Дзяржатамнагляд пачаў экспертызу дакументаў на ўзвядзенне другога энергаблока Беларускай АЭС, на 2 квартал года намечана ўстаноўка лавушкі расплаву.

**Чэрвень.** Мінскі абласны суд пакінуў у сіле рашэнне аб адабранні ў С. Захарыча чатырох прыёмных дзяцей за "прагул", ён паехаў на Украіну за пакупкамі, пакінуў іх родным.

**Мінск.** Нацыянальны тэатр імя Я. Купалы прадставіў публіцы першую прэм'еру пасля рэканструкцыі спектакль "Пан Тадэвуш", крыху пазней яе пакажуць у Парыжы.

**Даманава.** На мясцовым палігоне прайшлі дзяржаўныя выпрабаванні навейшага айчыннага беспілотніка-разведчыка "Грыф-1" для пошука ваенных аб'ектаў, ён лятае і ноччу.

**Мінск.** У бліжэйшыя 5-6 гадоў, як заявіў філосаф Генадзь Грушавы, нас чакаюць новыя прадказальныя па выніках рэферэндумы, непазбежны рост беспрацоўя, расслаення людзей

**Жлобін.** Суд пакараў 41-гадовага экс-прадпрымальніка 4 гадамі турмы з адтэрміноўкай прыгавору, ён падмануў 65 чалавек, хаваўся ў манастыры, але вярнуў заказчыкам 86 мільёнаў рублёў. **Гродна.** Услед за двума сумленнымі навукоўцамі з гістарычнага факультэта мясцовага дзяржуніверсітэта з падачы КДБ звольнілі па палітычных матывах яшчэ і дацэнта, кандыдата навук Іну Соркіну.

**Столін.** Вечарам у вёсцы Беражное ў нядобранадзейнай сям'і згарэлі трое пакінутых без нагляду малых дзяцей ва ўзросце 3, 5 і 6 гадоў, іх 26-гадовая маці злоўжывала гарэлкай.

**Мінск.** Многія спецыялісты і трэнеры абурыліся, што шэраг ігракоў аматарскай хакейнай каманды главы РБ атрымалі званні "заслужаных майстроў спорту", ордэн і медалі.

**Пухавічы.** Прэс-служба Міністэрства абароны Беларусі пацвердзіла, што спецназавец пакінуў тут воінскую часць пасля таго, як быў застуканы з планшэтам у службовым нарадзе.

**Мінск.** За апошнія 20 гадоў насельніцтва сталіцы вырасла яшчэ на 224 тысячы чалавек, а вось у беларускіх вёсках за гэты час вымерла да 1,3 мільёна чалавек, глыбінка вымірае вельмі актыўна.

# Набыў моц закон «Аб медыяцыі»



■ Сяргей Каралевіч, БелаПАН

**24 студзеня набыў моц закон «Аб медыяцыі» — добраахвотнай працэдуры ўрэгулявання спрэчак паміж бакамі на аснове перамоў з удзелам пасрэдніка (медыятара).**

Як паведаміў 24 студзеня журналістам начальнік упраўлення адвакатуры і ліцэнзавання юрыдычнай дзейнасці Мінюста Віталь Карнавушанка, закон дазваляе бакам «самастойна і аператыўна падчас перамоў без удзелу дзяржаўных судоў і пры садзеянні зацікаўленых асоб — медыятараў — урэгуляваць наяўны канфлікт з улікам узаемных інтарэсаў».

Закон вызначае парадак адносінаў, звязаных з прымяненнем медыяцыі з мэтай урэгулявання спрэчак, што ўзнікаюць з грамадзянскіх праваадносінаў у тым ліку ў сувязі з ажыццяўленнем прадпрымальніцкай і іншай гаспадарчай (эканамічнай) дзейнасці, а таксама спрэчак, што ўзнікаюць з працоўных і сямейных праваадносінаў.

«У прыватнасці выкарыстоўваць інстытут медыяцыі будзе выгадна, калі перамовы зайшлі ў тупік, калі неабходна пазбегнуць агалоскі спрэчкі, калі закранутыя пытанні рэпутацыі. Перавагі медыяцыі заключаюцца ў магчымасці захаваць ці аднавіць адносіны паміж канфліктуючымі бакамі, эканоміі часу і грошай», — сказаў Карнавушанка.

У адпаведнасці з законам медыятарам можа быць фізічная асоба, якая мае вышэйшую юрыдычную ці іншую вышэйшую адукацыю, прайшла падрыхтоўку ў сферы медыяцыі ў парадку, што ўстанаўліваецца Міністэрствам юстыцыі, або мае вопыт працы ў якасці прымірыцеля ў адпаведнасці з працэсуальным заканадаўствам, атрымала пасведчанне медыятара, якое выдаецца Мінюстам на падставе рашэння кваліфікацыйнай камісіі па пытаннях медыяцыі.

Закон прадугледжвае стварэнне кваліфікацыйнай камісіі па пытаннях медыяцыі пры Міністэрстве юстыцыі, рэестра медыятараў і арганізацый, што забяспечваюць правядзенне медыяцыі.

Паводле слоў Карнавушанкі, для атрымання пасведчання медыятара неабходна будзе прайсці падрыхтоўчыя курсы. Для асоб, якія маюць юрыдычную адукацыю, працягласць курсаў складзе не менш як 140 гадзін, для асоб без юрыдычнай адукацыі — не менш за 170 гадзін.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На мяжы ліквідацыі апынулася праблемная фабрыка ААТ "КІМ" са стратамі летась 25,8 млрд. руб., не будзе створаны і холдынг "Беларуская трыкатажная кампанія".

**Барань.** Спецыялісты мясцовай фірмы "ДжыВі-Эй Лайцінг" па заказе спорткомплекса "Чыжоўка-Арэна" вырабілі светадыёдныя пражэктары асвятлення і ўнутранай падсветкі.

**Віцебск.** Медсёстры, санітаркі і фельдшары абласной бальніцы звярнуліся ў Федэрацыю прафсаюзаў РБ з нагоды сваіх мізэрных зарплат, медперсаналу на іх цяжка пражыць.

**Паставы.** Напярэдадні свайго 20-годдзя мясцовы ваенны шпіталь пагранвойск набыў першы ў Беларусі перасоўны стаматалагічны кабінет фірмы "Adoni" для лячэння зубоў.

**Глыбокае.** У Празароцкім сельсавеце правялі дабрачынную акцыю "Працягні руку дапамогі", а дырэктар ААТ "Чарневічы" Уладзімір Бабіч уручыў падарункі інвалідам.

**Лёзна.** Камітэт Дзяржкантролю пакараў кіраўнікоў КУСХП "Крынкі" і яшчэ двух ААТ, райаграсервіса, райсельгасхарча, ДРБУ-107 за запозненую рэакцыю на крытыку ў СМІ.

**Мёры.** Невядомы зламыснік вечарам падпаліў дом у вёсцы Туркова, агонь знішчыў дах і столь, пашкодзіў сцены хаты, у Наваполацку ў знак помсты падпалілі дзверы кватэры.

**Віцебск.** Жыхары двух шматпавярховак на Маскоўскім праспекце, якія восенню нарэшце ўзвялі, і ў студзені не змаглі засяліцца ў свае кватэры, дамы будавалі больш трох гадоў.

**Сураж.** Жыхары пасёлка, падзеленага руслам Заходняй Дзвіны на дзве часткі, два месяцы адчувалі цяжкасці з-за адсутнасці лёду і паромнай пераправы на другі бераг.

**Наваполацк.** Пасля літургіі ў храме на галоўнай плошчы горада прайшоў малебен аб дзецях, якім не нарадзіцца з-за абортаў, летась тут адгарвалі ад граху 80 парадзіх.

**Верхнядзвінск.** Пекар мясцовага хлебазавода Кастусь Ларкоў перадаў рэдакцыі старэйшай беларускай газеты "Ніва" свой чарговы шэдэўр – пірог з лагатыпам выдання.

**Лынтупы.** Двое маладых хлопцаў з гарпасёлка, гастарбайтараў у Расіі трагічна загінулі на заработках паблізе Санкт-Пецярбурга, яны атравіліся чадным газам ноччу ў вагончыку.

**Віцебск.** Праваабаронцу, ваеннаму пенсіянеру П. Іванову міліцыя прыгразіла дэпартаваць у Расію, калі ён не прадаставіць дакументы аб фінансавых сродках, на якія існуе.

**Орша.** Вучань 4-га класа СШ № 19 Мікіта Мядзведзеў стаў пераможцам міжнароднага конкурсу "Спорт у выяўленчым мастацтве", прысвечанага XXII Алімпіядзе ў Сочы.

**Віцебск.** Шматпакутны ХК "Віцебск" змог знайсці грошы на папаўненне 35-гадовым расійскім хакеістам А. Зюзіным, які ў НХЛ раней згуляў, як абаронца, 496 матчаў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Новы біскуп у Мінску

*У Мінскай катэдры 25 студзеня адбылося пасвячэнне ў біскупы ксяндза Юрыя Касабуцкага.*

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота.*

Юрый Касабуцкі нарадзіўся 15 лютага 1970 года ў Маладзечне на тэрыторыі сучаснай Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі, потым служыў у войску. У 1991 годзе паступіў у семінарыю ў Гродне. Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў 7 снежня 1996 года. Выконваў абавязкі вікарыя ў Магілёве і адміністратара парафіі ў Вілейцы. З 1999 года па 2001 год вучыўся ў Люблінскім каталіцкім універсітэце (Польшча), дзе атрымаў ступень ліцэнцыята тэалогіі. У 2001 – 2004 гадах выконваў абавязкі прэфекта вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску. У 2004 годзе прызначаны дырэктарам Сакратарыяту Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі. З 2005 года выконвае абавязкі канцлера курыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. З 2006 года з'яўляецца таксама адміністратарам парафіі на Залатой Горцы ў Мінску. З'яўляецца выкладчыкам у вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску і Катэхетычным каледжы ў Мінску.

На ўрачыстасць у катэдры сабралася шмат вернікаў, святароў з Беларусі і замежжа, прыехалі родныя і блізкія ксяндза Юрыя, а таксама яго аднакурснікі. Прысутнічаў святар ад лютэранскай царквы, які прывітаў новага біскупа ад імя пратэстантаў Беларусі. Чамусьці не было прадстаўнікоў праваслаўнай царквы.

Пасвячэнне новага біскупа здараецца не так часта ў каталіцкім касцёле. Апошняя пасвячэнне ў Мінскай катэдры адбылося ў 1999 годзе, калі біскупам стаў былы глыбоцкі пробашч ксёндз Кірыл Клімовіч, які зараз з'яўляецца арцыбіскупам у Іркуцку.

Абрад кансэкрацыі выканаў арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч. Асістэнтамі былі біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч і пінскі біскуп Антоні Дзям'янка.

Новага біскупа павіншаваў папскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці. У звароце ён адзначыў, што папа Францішак зрабіў адмысловы падарунак для беларусаў, прызначыўшы трох маладых біскупаў. "Біскуп Юрый Касабуцкі малады і з'яўляецца нібы сонцам, якое, нягледзячы на халоднае надвор'е, павінна даваць цяпло любові Божага Сэрца," – адзначыў прадстаўнік папы.

Біскуп Юрый будзе выконваць абавязкі дапаможнага біскупа Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі.



**Біскуп Юрый Касабуцкі (злева) і архібіскуп-мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч.**

*У суботу, 15 лютага, у Росіцы, што ў Верхнядзвінскім раёне, адбудзецца ўшанаванне памяці мірных жыхароў, якіх карнікі спалілі жывымі разам са сваімі святарамі ксяндзамі Антоніям Ляшчэвічам і Юрыем Кашырам.*

■ **Зміцер Лупач**

# З кожным годам усё больш пілігрымаў прыязджае ў Росіцу

**З кожным годам у гэтыя лютаўскія дні ўсё больш пілігрымаў прыязджае ў Росіцу. Сюды едуць з Барысава, Жодзіна, Полацка, Браслава, Мінска, з іншых гарадоў і вёсак Беларусі, а таксама з замежжа. Асобна хочацца адзначыць глыбачанаў, якія не толькі прыязджаюць сюды пад час пілігрымак, але і некалькі разоў на год ездзяць у Росіцу, каб дапамагчы мясцоваму пробашчу ксяндзу Чэславу падтрымліваць у парадку касцёл і прыкасцельную тэрыторыю.**

Ксёндз Чэслаў Курэчка за некалькі гадоў ператварыў закінутую тэрыторыю вакол касцёла ў квітнеючы сад. Ён не толькі таленавіты кветкавод, але і добры арганізатар. У Росіцы засталося не так шмат вернікаў, таму на просьбу святара сюды прыязджаюць вернікі з Глыбокага, Полацка, Барысава, іншых мясцін, каб аказаць дапамогу ксяндзу Чаславу. Аказваюць дапамогу таксама пагранічнікі, што нясуць службу непадалёк ад Росіцы.

Нагадаем, у лютым 1943 года падчас нямецкай акупацыі латышскія часткі СС праводзілі антыпартызанскія аперацыі на сумежных беларускіх землях. Адной з мэтаў іх дзеянняў была расчыстка тэрыторыі пад будучую вялікую Латвію. У тыя далёкія лютаўскія дні ў Росіцы ў агні загінула 1528 чалавек, сярод якіх былі два святары. Карнікі ім даравалі жыццё, але яны вырашылі да канца падзяліць лёс вернікаў, якіх вялі дарогай да Бога. У 1999 годзе папа Ян Павел II абвясціў росіцкіх мучанікаў ксяндзоў Антонія Ляшчынскага і Юрыя Кашыру благаслаўлёнымі.



### Праграма ўспаміну пакутнікаў з Росіцы

**15 лютага 2014 года**

**11.00** – Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту.

Ружанец (Частка Балесная).

Сакрамант споведзі.

Падрыхтоўка да Св. Імшы.

**12.00** – Св. Імша з удзелам біскупа Алега Буткевіча.

Гамілію гаворыць біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

**13.30** – Працэсія на месца мучаніцтва.

Вяночак да Божай міласэрнасці.

**14.30** – Супольны абед для ўсіх пілігрымаў.

Апякун санктуарыя росіцкіх пакутнікаў кс. Чэслаў Курэчка, марыянін, шчыра запрашае ўсіх пілігрымаў у Росіцу 15 лютага 2014 года.

Тэл. для даведак: +375 29 211-25-45





**Троіцкі касцёл у Росіцы на здымку пачатка XX ст. (злева). Так выглядае росіцкі касцёл св. Тройцы ў нашыя дні.**

### Наша даведка:

Першыя згадкі пра існаванне касцёла ў Росіцы адносяцца да другой паловы XVI ст. У 1778 г. пабудаваны маленькі драўляны храм, асвячоны ў 1792 годзе. Новы мураваны касцёл Найсвяцейшай Тройцы пабудаваны ў 1884 годзе. Фундаваны ён разам з царквой Лапацінскімі. Цэглу вазілі з іх уласнага завода ў Сар'і.

Пасля расейскай рэвалюцыі 1917 года касцёл Найсвяцейшай Троіцы быў зачынены. У 1943 годзе у вёсцы вернікаў апекавалі 2 капланы, марыяне. Сама вёска была спалена ў адну з карных аперацый. Тады загінулі і святары храма: Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра. Дзякуючы выпадку касцёл застаўся некранутым. Але пасля вайны ён ужо выкарыстоўваўся як вясковы клуб, стайня, крама і нават млын. Толькі ў 1988 годзе храм перадалі вернікам, а ў 2000 годзе поўнасцю адрамантавалі.

А. Ю. Рацьковіч,
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МрА.*

# Замаразкі

**Зіма ў разгары і сёлета, як ужо даўно не было, зіма паказвае сябе досыць нізкімі тэмпературамі вонкавага паветра. Што ж робіцца для забеспячэння надзейнай працы цеплаўстановак і цеплавых сетак ва ўмовах нізкіх тэмператур вонкавага паветра?**

У шматлікіх арганізацыях (жыллё, адукацыя, ахова здароўя) створаныя апаратыўныя групы для прыняцця неабходных мер па забеспячэнні належнай работы электра-, цеплаўстановак і інжынерных сетак, створаны неабходны запас матэрыялаў, абсталявання і запасных частак. Абслуговаму персаналу праведзены інструктажы па дзеяннях ва ўмовах нізкіх тэмператур вонкавага паветра.

Начальнікамі ўчасткаў і майстрамі УП ЖКГ праводзіцца сталы кантроль за цеплазабеспячэннем падведамасных дамоў і выкананнем тэмпературнага рэжыму ў жылым фондзе. Ва УП ЖКГ Глыбоцкага раёна на гэты перыяд узмоцнена аварыйнадыспетчарская служба і персанал УП ЖКГ Глыбоцкага раёна працуе без выходных дзён ва ўзмоцненым рэжыме. Вядзецца сталая праца па рэгуляванні падачы цяпла ў жылыя дамы, дзіцячыя дашкольныя ўстановы, школы, установы аховы здароўя.

Маюць месца парушэнні ў цеплазабеспячэнні, у некаторых кватэрах жылога дома па вул. Юбілейная, 2а ў г. Глыбокае тэмпература складае 15-16 С°, што ніжэй сацыяльнага стандарту, вядуцца работы для аператыўнага ўхілення недахопаў.

У той жа час хацелася б нагадаць жыхарам шматкватэрных дамоў аб недапушчальнасці варварскіх адносінаў да работы, якая праводзіцца камунальнымі службамі. На працягу ацяпляльнага перыяду неаднаразова выбіваюцца рамы з аконных праёмаў у сутарэнных памяшканнях для ажыццяўлення вентыляцыі, а таксама выломліваюцца ўваходныя дзверы ў пад'езды. Паводле патрабаванняў Правіл тэхнічнай эксплуатацыі цеплавыкарыстальных установак і цеплавых сетак спажыўцоў: «у цеплавых пунктах не дапушчаецца захоўванне абсталявання, матэрыялаў і іншых староннiх прадметаў» і камунальныя службы маюць права прыбіраць самавольныя пабудовы, якія не прадугледжаныя праектамі. Будзьце ўзаемаветлівымі.

І, нарэшце, ужо зараз неабходна пачынаць складаць мерапрыемствы па падрыхтоўцы да новага АЗП з улікам тых прарэхаў, якія выявіліся ў гэтым ацяпляльным сезоне.



**Глыбокае ніколі не патоне ад вясновых паводкаў ці праліўных дажджоў, як тоне Еўропа. Так, ёсць у нашым горадзе праблемныя месцы, асабліва даліна ракі Беразвіцы. Аднак, тут усё – прадказальна. Тапіла і будзе тапіць стагоддзямі адны і тыя самыя месцы.**

**Аднак, як павядуць сябе падчас зімовай сцюжы сотні водасцёкавых канаў уздоўж гарадскіх вуліцаў – прадказаць даволі цяжка. На двары – снежань, тэмпература +5С°. Палова студзеня +5С°, штодня ідзе дождж. І, раптам, 20-градусны мароз! А зямля насычаная вадой, яна бруіць, жывіць водасцёкавыя канавы. Канавы замярзаюць, замярзаюць і водасцёкавыя трубы пад вуліцамі – вада шукае выйсце наверх. І вось праезная частка вуліцаў пачынае пакрывацца лядовым панцырам, яшчэ дзень-другі - вада пойдзе ў падвалы жылых дамоў... Трэба ратаваць канавы! Чым? Бяром бензапілу, рыбацкую пяшню і шуфаль.**

**На здымку: ратаванне водасцёкавай канавы па вуліцы 3-га Ліпеня.**

*Фота Ул. Скрабатуна.*

■ А.І. Гігола,
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

# Бяспечнае суседства

З 27 студзеня па 9 лютага 2014 гады на тэрыторыі г. Глыбокае і Глыбоцкага раёна будзе праходзіць рэспубліканскай акцыя «Бяспечнае суседства», якая накіравана на зніжэнне колькасці правапарушэнняў, а таксама надзвычайных сітуацый, якія адбываюцца па прычыне супрацьпраўных паводзінаў грамадзян, што выкарыстоўваюць сваё жыллё для збору асобаў, якія вядуць асацыяльны вобраз жыцця, і распівання спіртных напояў, незахаванні іншых правіл карыстання жылымі памяшканнямі, а таксама правілаў супрацьпажарнай бяспекі.

У артыкуле 86 Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь указана, наймальнік жылога памяшкання дзяржаўнага жыллёвага фонду, з членамі яго сям'і, якія пражываюць сумесна з ім, што маюць без паважлівых прычынаў шасцімесячную запазычанасць па плаце за жыллёва-камунальныя паслугі і плаце за карыстанне жылым памяшканнем, падлягаюць высяленню ў судовым парадку з падаваннем ім іншага жылога памяшкання па плошчы меней займанага жылога памяшкання і (ці), які саступае яму па сваіх спажывецкіх якасцях, а ў артыкуле 85 указана, што грамадзяне, якія на працягу года тры і больш разоў прыцягваліся да адміністратыўнай адказнасці за парушэнне правіл карыстання жылымі памяшканнямі, утрымання жылых і дапаможных памяшканняў, што выявілася ў разбурэнні, псаванні жылога памяшкання або ў выкарыстанні яго не па прызначэнні, ці за іншыя парушэнні патрабаванняў Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь, якія робяць немагчымым для іншых пражыванне з імі ў адной кватэры ці адным жылым доме, падлягаюць высяленню ў судовым парадку без падавання іншага жылога памяшкання.

# VIII зімовая галіновая Спартакіяда працаўнікоў ЖКГ Віцебскай вобласці

**23 студзеня 2014 на базе Наваполацкага спартыўнага комплексу "Атлант" праходзіла VIII зімовая галіновая Спартакіяда працаўнікоў ЖКГ Віцебскай вобласці (Полацкая зона). Удзел у спаборніцтвах прыняла 16 каманд.**

Праграма Спартакіяды: настольны тэніс, шахматы, шашкі, дартс, більярд.

Пераможцам стала каманда "Наваполацкводаканал", другое месца – "Полацкводаканал" і трэцім прызёрам стала каманда "Наваполацкая КУП ЖРЭА".

*Я. Самсонаў.*




**Каманда УП ЖКГ Глыбоцкага раёна.**

# У Беларусі 1 лютага павышаюцца цэны на асобныя маркі цыгарэт на 3,4-21%

**У Беларусі 1 лютага максімальныя рознічныя цэны на асобныя маркі цыгарэт павышаюцца на 3,4—21%. Інфармацыя аб новых цэнах размешчана на сайце Міністэрства па падатках і зборах Беларусі.**

Так, цыгарэты марак Cooper падаражэюць на 21% (да 7,2 тыс. рублёў), Velvet — на 20% (да 10,2 тыс. рублёў). Цэны на цыгарэты Lucky Strike Click&Roll павышаны на 3,4% (да 15 тыс. рублёў), на цыгарэты Dunhill (чатыры разнавіднасці) і цыгарэты Aroma Rich (дзве разнавіднасці) — на 5,56% (да 19 тыс. рублёў).

Гэта будзе ўжо другое падаражэнне цыгарэт у новым годзе. 1 студзеня максімальныя рознічныя цэны на большасць марак цыгарэт былі павышаны на 1—26,2% у залежнасці ад маркі.

Згодна з Асаблівай частка́й Падатковага кодэкса, з 1 студзеня 2012 года беларускія вытворцы і імпарцёры цыгарэт маюць права штомесяц дэкларавацъ максімальныя рознічныя цэны на цыгарэты. Раней рознічныя цэны рэгуляваліся Міністэрствам эканомікі.

***Марына Носава, БелаПАН.***

# МВФ рэкамендуе ўладам Беларусі выходзіць на поўнае пакрыццё насельніцтвам кошту паслуг ЖКГ

**Міжнародны валютны фонд рэкамендуе ўладам Беларусі падрыхтаваць план па выхадзе на 100-працэнтнае пакрыццё насельніцтвам паслуг ЖКГ і транспарту. Такая пазіцыя выкладзеная ў лістападаўскім дакладзе персаналу МВФ, які апублікаваны на сайце фонду. Даклад быў падрыхтаваны для абмеркавання на снежаньскім пасяджэнні Выканаўчага савета МВФ.**

«Рашучыя структурныя рэформы працягваюць мець істотнае значэнне для павышэння патэнцыяльнага эканамічнага росту і садзеяння забеспячэнню стабільнасці за межамі кароткатэрміновай перспектывы», — адзначаюць у сваім дакладзе эканамісты фонду.

На думку спецыялістаў МВФ, цяпер у Беларусі патрабуецца падрыхтоўка ўсёабдымнай праграмы рэформаў «з канцэнтрацыяй мер у пачатковым перыядзе».

«Канкрэтныя захады будуць уключаць прыняцце плана з вызначанымі часавымі рамкамі па павышэнні пакрыцця затрат на аплату камунальных і транспартных тарыфаў у поўным 100-працэнтным аб'ёме, падрабязны план і значныя першапачатковыя крокі да зніжэння ролі дзяржавы ў эканоміцы, уключаючы хуткую паэтапную адмену сістэмы абавязковых мэтавых паказчыкаў для прадпрыемстваў і прыватызацыю, што выклікае давер, і рэструктурызацыю прадпрыемстваў з умацаваннем сістэм сацыяльнай абароны найболей уразлівых слаёў грамадства», — гаворыцца ў дакладзе фонду.

Паводле афіцыйных ацэнак, насельніцтва ў Беларусі пакрывае цяпер 23-25% кошту паслуг ЖКГ. «Мы (насельніцтва.—БелаПАН.) пакрываем паслугі ЖКГ на 23% працэнты, 77% гэтыя паслугі ЖКГ пакрываюцца за кошт дзяржаўнага бюджэту. Назавіце яшчэ такую краіну, дзе гэта ёсць», — сказаў Аляксандр Лукашэнка, адказваючы на мінулым тыдні на пытанні кіраўнікоў беларускіх СМІ.

Варта зазначыць, што рэалізацыяй захадаў па рэфармаванні эканомікі МВФ абумоўлівае выдзяленне новага крэдыту Беларусі, па які раней звярталіся беларускія ўлады. Персанал фонду падкрэслівае, што новая крэдытная праграма магчымая толькі ў выпадку прыняцця Беларуссю захадаў па рэфармаванні эканомікі.

«Новая праграма, якая падтрымліваецца рэсурсамі МВФ, па-ранейшаму патрабуе жорсткай прыхільнасці значным змяненням у эканамічнай палітыцы», — гаворыцца ў дакладзе фонду.

Разам з тым, мяркуюць эканамісты МВФ, сумесны план дзеянняў урада і Нацбанка Беларусі, прыняты ў кастрычніку 2013 года, прадугледжвае толькі частковае рэфармаванне эканомікі.

«Новы сумесны план дзеянняў прадугледжвае частковыя рэформы, але яго рэалізацыя застаецца нявызначанай», — гаворыцца ў дакладзе Міжнароднага валютнага фонду.

***Дзмітрый Заяц, БелаПАН.***

# На вырубку дрэў і кустоў трэба мець дазвол

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

З наступленнем халадоў штогод востра ўстае пытанне пра нарыхтоўку дроў насельніцтвам на землях сельскагаспадарчага прызначэння. На працягу шматлікіх гадоў жыхары сельскай мясцовасці нарыхтоўвалі дровы ў кустах, якія прылягаюць да населеных пунктаў, на палях, каналах і г.д., якіх-небудзь дазваленчых дакументаў ніхто не патрабаваў, ды і ў заканадаўчым парадку дадзенае пытанне адрэгулявана не было, гэтым і карысталіся шматлікія нядобрасумленныя грамадзяне, высякаючы ўсё вакол, закідваючы адыходамі рубак кусты, лес, выразаючы лепшую драўніну, галоўным чынам для продажу. З уступленнем у дзеянне Указу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 7 траўня 2007 года №214 «Пра некаторыя меры па ўдасканаленні дзейнасці ў сферы лясной гаспадаркі» парадак нарыхтоўкі і водпуску драўніны па ордарах на землях сельскагаспадарчага прызначэння быў выразна адрэгуляваны.

У адпаведнасці з пунктам 2 «Правілаў водпуску драўніны на кораню і яе нарыхтоўкі ў лясах Рэспублікі Беларусь» (далей – Правілы), зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 07.05.2007 № 214 у адносінах драўняна-хмызняковай расліннасці (насаджэнняў), якія не ўваходзяць у лясны фонд, у тым ліку размешчанай на землях сельскагаспадарчага прызначэння, дадзеныя Правілы ўжываюцца ў поўным аб'ёме.

Дазваленчым дакументам на права нарыхтоўкі драўніны з'яўляецца лесарубачны квіток (ордар на дробны водпуск драўніны на кораню (далей – ордар).

Паводле пункта 38 Правілаў:

«Лесарубачны квіток (ордар) на нарыхтоўку драўніны штогод выдаецца лесакарыстальнікам юрыдычнай асобай, якія вядуць лясную гаспадарку (лясгасам), на пэўную лесасеку і з'яўляецца дакументам, які дазваляе лесакарыстальніку ажыццяўляць нарыхтоўку драўніны ва ўказаным у гэтым квітку (ордары) аб'ёме ў адпаведнасці з тэхнічнымі нарматыўнымі прававымі актамі і ва ўсталяваны тэрмін, а таксама прадстаўляюць права фізічным асобам, якія нарыхтавалі драўніну, на яе вывазку.

Лесарубачныя квіткі (ордары) на нарыхтоўку драўніны выдаюцца лесакарыстальнікам юрыдычнымі асобамі, якія вядуць лясную гаспадарку (лясгасам), на працягу года ў парадку, які ўсталяваны Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, калі іншае не вызначана Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.



Лесарубачныя квіткі (ордары) на права выдалення (нарыхтоўкі) драўняна-хмызняковай расліннасці (насаджэнняў), якія не ўваходзяць у лясны фонд, у тым ліку на землях сельскагаспадарчага прызначэння, выдаюцца лесакарыстальнікам юрыдычнымі асобамі, якія вядуць лясную гаспадарку, на падставе рашэнняў мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў.

Рашэнне мясцовага выканаўчага і распарадчага органа пра выдаленне (нарыхтоўцы) драўняна-хмызняковай расліннасці, якая не ўваходзіць у лясны фонд, у тым ліку на землях сельскагаспадарчага прызначэння прымаецца па ўзгадненні з тэрытарыяльнымі органамі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя з улікам заключэння адмыслова ўпаўнаважанага мясцовым выканаўчым і распарадчым органам юрыдычнай асобы ў вобласці азелянення».

Пасля атрымання прынятага рашэння пра выдаленне (нарыхтоўцы драўняна-хмызняковай расліннасці, якая не ўваходзіць у лясны фонд у тым ліку на землях сельскагаспадарчага прызначэння, **землекарыстальнік звяртаецца да юрыдычнай асобы**, якая вядзе лясную гаспадарку (лясгасу), для выдачы дазваленчага дакумента (лесарубачнага квітка, ордара) на нарыхтоўку драўніны.

Ордары выдаюцца лесакарыстальнікам лясніцтвам толькі на тую драўніну, якая па лесарубачным квітку, аформленым лясгасам на лясніцтва, выдзелена для вытворчасці дробных водпускаў драўніны па ордарах.

Памер дробнага водпуску драўніны на кораню па кожным ордары не павінен перавышаць 50 кубічных метраў.

У выпадку дробнага водпуску **лясніцтвам** драўніны ў парадку ўборкі захламленасці, высечкі сухастойных, ветравальных і бурэламных дрэў, прадугледжанага Правіламі водпуску драўніны на кораню, у аб'ёме да 15 кубічных метраў дроўнай драўніны лесарубачны квіток на адпушчаную лесакарыстальнікам па такіх ордарах драўніну выпісваецца лясніцтву па паўгоддзях пасля прад'яўлення юрыдычнай асобе, якая вядзе лясную гаспадарку, выдадзеных за паўгоддзе ордараў.

**Адвод і таксацыя лесасек** для дробнага водпуску драўніны на кораню праводзіцца юрыдычнымі асобамі, якія вядуць лясную гаспадарку (**лясгасамі**), у адпаведнасці з Правіламі адводу і таксацыі лесасек у лясах Рэспублікі Беларусь, зацверджаных пастановай Мінлясгаса ад 29.12.2006 № 35.

**За атрыманнем дазволу на высечку драўняна-хмызняковай расліннасці на землях сельгаспрызначэння грамадзяне павінны звярнуцца з заявай у лясніцтва па месцы жыхарства, дзе працаўнікі абавязаны правесці адвод месца рубкі і выдаць ордар на дробны водпуск драўніны на кораню, а таксама растлумачыць увесь парадак нарыхтоўкі драўніны.**

Так як юрыдычная асоба, якая вядзе лясную гаспадарку, нясе вызначаныя выдаткі на адвод і таксацыю лесасек, то паміж ім і землекарыстальнікам дадзены від паслуг можа праводзіцца на дагаворных умовах.



## АДАІ Глыбоцкага раёна інфармуе:

# «Паважайце адзін аднаго!»

**Анатоль Завадскі,**
*часовы выканаўца начальніка АДАІ Глыбоцкага раёна, маёр міліцыі.*

**У сувязі з тым, што ў апошні час пачасціліся аварыі на дарогах, 31 студзеня 2014 года Дзяржаўтаінспекцыя Віцебшчыны праводзіць Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху пад назвай «Вадзіцель - пешаход: зносіны па правілах!»**

З пачатку 2013 года на дарогах Віцебска і Віцебскай вобласці зарэгістравана 500 дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх загінулі 141 чалавек, паранена 479, прычым па віне вадзіцеляў адбылося 371 ДТЗ. Як бачна, дарожна-транспартны траўматызм стаў адной з галоўных чыннікаў гібелі людзей. Такое становішча шмат у чым з'яўляецца следствам агрэсіўных паводзін удзельнікаў дарожнага руху на дарогах. Як бачым, па статыстыцы – у большасці выпадкаў вінаваты вадзіцель.

Надзейнасць вадзіцеля вызначае яго здольнасць кіраваць аўтамабілем, забяспечваючы пры гэтым максімальна надзейную бяспеку як для сябе, так і для іншых удзельнікаў дарожнага руху. Таксама надзейнасць вадзіцеля ў значнай ступені залежыць ад яго маральных якасцяў, як дысцыплінаванасць, маральная і эмацыйная ўстойлівасць, самавалоданне, пачуццё адказнасці. Транспартная дысцыпліна вадзіцеля забяспечваецца шляхам няўхільнага выканання патрабаванняў Правілаў дарожнага руху, праявы этыкі і павагі да іншых удзельнікаў дарожнага руху – вадзіцелям, пешаходам, пасажырам.

У дарожным руху нярэдка сустракаюцца сітуацыі, у якіх верагоднасць з'яўлення небяспекі (дапусцім, выйсце пешахода на праезную частку) нязначная, але магчымая.

Вось, за выхадныя, вадзіцель «Форда», увечары, здзейсніў наезд на пешахода, які раптоўна выйшаў на праезную частку. Ён атрымаў цялесныя пашкоджанні і быў адпраўлены ў бальніцу. Хто вінаваты ў дадзенай сітуацыі? Хоць аварыі можна было пазбегнуць, будзь уважлівей вадзіцель і асцярожней пешаход. Асабліва небяспечна перасякаць праезную частку дарогі ў цёмны час сутак і ва ўмовах недастатковай бачнасці. Але, на жаль, і на пешаходным пераходзе часта здзяйсняюцца аварыі. Кожны вадзіцель павінен увесь час памятаць, што права пешахода на жыццё пераважае над правам вадзіцеля транспартнага сродку на праезд.

У адносінах паміж вадзіцелямі важнае месца займае вадзіцельская этыка, галоўная запаведзь якой абвяшчае пра тое, што неабходна дапамагаць адзін аднаму: падказваць правільны манеўр, саступаць дарогу, папярэджваць пра небяспеку, дапамагаць ва ўхіленні няспраўнасцяў.

Вадзіцель і пешаход павінны быць адказныя, дысцыплінаваныя і выконваць Правілы дарожнага руху, тады непрыемных момантаў у жыцці можна пазбегнуць.

